# КРАЯЗНАЎЧАЯ ГАЗЕТА



№9(13)
ВЕРАСЕНЬ
2001 года

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ


## АДАМ МАЛЬДЗІС ПРАПАНУЕ...



Адам Мальдзіс

Грамадскае аб'яднанне "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў" на чале з прафесарам Адамам Мальдзісам выступіла з ініцыятывай правесці ў чэрвені 2002 года міжнароднае свята "Сем колераў вясёлкі зямлі Астравецкай".

Назва тлумачыцца тым, што тут, на паўміфічнай зямлі гудаў, спрадвеку жылі беларусы, літоўцы, габрэі, палякі, рускія, татары, украінцы. Пагэтаму этнічны склад, культура маляўнічага прыгранічча нагадваюць сем колераў вясёлкі.

Свята плануецца правесці ў суботу-нядзелю. У гэтыя дні будзе арганізавана навукова-краязнаўчая канферэнцыя "Этнічнае і культурнае шматаблічча Астравеччыны", пройдзе фестываль-конкурс самадзейных і прафесійных калектываў раёна, адбудзецца выстаўка работ мастакоў, якія нарадзіліся, жылі або жывуць на Астравеччыне; наладжана этнаграфічна-пабытавая выстаўка этнічных супольнасцяў гэтага краю, а таксама дэгустацыя-конкурс нацыянальных страў.

У лісце выказана спадзяванне, што ў арганізацыі і правядзенні свята прымуць удзел Астравецкі райвыканкам, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Інстытут гісторыі НАН Беларусі, Польскі Інстытут у Мінску, **краязнаўцы Гродзеншчыны**, прадстаўнікі пасольстваў зацікаўленых краін і інш.

**«КГ».** ***Ініцыятыва ёсць. Ці падтрымаем яе мы, краязнаўцы Гродзеншчыны? Якім бачым свой удзел у свяце "Сем колераў вясёлкі зямлі Астравецкай"? Выкажамся, сябры, з гэтай нагоды.***

## ВУЧОНЫ СУСТРЭЎСЯ З ГРАМАДСКАСЦЮ

На сустрэчу з кандыдатам гістарычных навук, дацэнтам кафедры гісторыі славянскіх дзяржаў Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта, старшынёй Рады Гродзенскага гарадскога краязнаўчага таварыства Вячаславам Шведам былі запрошаны навучэнцы вучылішча мастацтваў імя Цёткі, а таксама ўсе зацікаўленыя.

Тэма размовы была пазначана наступная – "Даследчыкі Гродзенскай губерні". Дзеля гэтага на стэндзе былі выстаўлены кнігі шматлікіх аўтараў, якія вывучалі ў розныя часы наш край. Сярод іх – Леон Патоцкі, Яўхім Карскі, Тодар Нарбут, Міхаіл Каяловіч, Пётр Шпілеўскі, Яўстафій Арлоўскі і іншыя.

Зараз актыўна вывучаюць гістарычную спадчыну дактары гістарычных навук Алесь Краўцэвіч і Святлана Куль-Сільвестрава, гісторыкі Аляксандр Дабрыян, Сяргей Амелька, Сяргей Токць, Сяргей Данскіх, Аляксандр Госцеў, Сяргей Піваварчык...



Вячаслаў Швед

*6-га верасня ў абласной навуковай бібліятэцы імя Я.Ф.Карскага адбылося паседжанне за "круглым сталом", арганізаванае супрацоўнікамі аддзела краязнаўства*

Вячаслаў Швед адзначыў, што сярод навукоўцаў і краязнаўцаў назіраецца "спецыялізацыя". Нехта вывучае гісторыю медыцыны (Андрэй Майсяёнак, Фёдар Ігнатовіч), нехта гісторыю населеных нуктаў (Аляксандр Талерчык), нехта знаных асобаў (Апанас Цыхун) і г.д.

Вучоны мае свой погляд на вынікі далучэння Беларусі да Расійскай імперыі 200 гадоў назад. Як аўтару 9 кніг, яму давялося шмат працаваць у архівах, бачыць шматлікія дакументальныя сведчанні, у тым ліку перапіску расійскіх чыноўнікаў. Усё гэта не пакідае сумнення, што мэтанакіравана вялося паглынанне ўсходняй краінай маленькай суседняй тэрыторыі. Вячаслаў Швед прывёў гістарычныя факты ў доказ свайго бачання праблемы, адказаў на пытанні.

**Уладзімір Кавалёў**

■ **УЛАСНАЕ МЕРКАВАННЕ**

# ДЗВЕРЫ АДЧЫНЯЮЦЬ НАСТОЙЛІВЫМ

***Альгімантас Дзіргінчус узначальвае абласное аб'яднанне літоўцаў "Тэвінэ", асоба вядомая ў грамадска-культурным асяродку рэгіёна. Ён адзін з ініцыятараў стварэння абласнога аб'яднання "Ратуша", з'яўляецца дзейсным сябрам каардынацыйнага камітэта "Гродзенская ініцыятыва". З ім наша гутарка.***

— 3-га лістапада 1968 года я быў прыняты на работу ў якасці рэжысёра студыі тэлебачання Гродзенскага тэлерадыёкамітэта. Да гэтага часу скончыў Ленінградскі дзяржаўны інстытут тэатра, музыкі і кінематаграфіі па спецыяльнасці "Рэжысёр". Меў працоўны стаж з 1959 года.

У 1966 годзе мой дакументальны фільм "Старшыня" атрымаў прыз на фестывалі прыбалтыйскіх рэспублік "Бурштын". Магчыма пагэтаму тагачасны старшыня Камітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні Літвы І.Януйціс параіў маю кандыдатуру гродзенцам, якія звярнуліся з просьбай дапамагчы ў пошуку рэжысёра для ўласнай новай тэлестудыі. Вось так мой лёс назаўсёды знітаваўся з Гродна – гістарычным літоўскім, беларускім, польскім горадам.

Дарэчы, цяпер пішу мемуары пра станаўленне Гродзенскай студыі тэлебачання, пачатак вяшчання, аб работніках, з якімі поплеч працаваў на працягу 20 гадоў. Успамінаю і пра тое, як мяне спрабавалі выжыць з Гродна…

***— Сёння можна казаць, што грамадскае аб'яднанне "Тэвінэ" адбылося. Ёсць свой цэнтр ў Гродне, створаны асяродкі ў вобласці, ёсць працаздольны актыў, наладжаны цесныя сувязі з гістарычнай радзімай, праводзіцца канкрэтная работа…***

— Калі ў Гродне быў усталяваны помнік вялікаму Вітаўту каля старога замка мы, тутэйшыя літоўцы, тады казалі: "Вітаўт вярнуўся дадому". Па праву заслужылі шчырую павагу актывісты нашага грамадскага аб'яднання настаўнікі з Літвы Петранэле і Ёнас Бразаўскасы, Вацлавас Лукша з Гервят, гродзенка Ірэна Паўловіч, Ёнас Мацюлявічус з Воранава, Зенонас Адамоніс і Леакадзія Грышун з Ліды. Многія з іх былі абраны ў першы склад савета "Тэвінэ".

Мы шмат займаемся адукцыйнай дзейнасцю. Маем дзве школы з літоўскай мовай навучання (в.Рымдзюны Астравецкага і в.Пелясы Воранаўскага раёнаў), свой цэнтр літоўскай культуры. Ёсць, праўда, праблемы з настаўнікамі для літоўскіх школ, арэндай памяшканняў для нядзельных школак.

Афіцыйныя дадзеныя перапісу сведчаць, што ў вобласці жыве 2.964 літоўцаў (0,2%). Аднак мы лічым, што нас 30 тысяч. Каля мястэчка Пелясы ёсць дзевяць літоўскіх вёсак, у Гервяцкім краі – 16.

***— Вядома, што Вы моцна сябруеце з відэакамерай. Спалучэнне майстэрства прафесійнага рэжысёра і адметнага аператара, які ўмее знайсці патрэбны ракурс, даюць свой плён. Пра гэта сведчаць адзнятыя Вамі краязнаўчыя фільмы.***

— Тэленарысы я працягваў здымаць, працуючы на Гродзенскай студыі тэлебачання. Тады былі створаны такія ленты, як "Мой Навагрудак (1969, сцэн.Н.Сакалова), "Мы – гродзенцы" (1974, сцэн. Я.Карабок), "Зямля бацькоў, зямля родная" (1986, сцэн. В.Шоцік) і іншыя.

Зараз мы зрабілі некалькі краязнаўчых фільмаў. Саму ідэю падтрымалі вядомыя краязнаўцы Андрэй Майсяёнак, Алесь Госцеў, Ванда Шоцік. Сабраны матэрыял для чарговых работ. Аднак няма грошай, каб рэалізаваць задуманае. На жаль, дзяржаўныя структуры не зацікаўлены мець відэафільмы аб родным краі, якія не сорамна і гасцям паказаць, і на памяць уручыць. Усё-такі прапаганда сваёй зямлі. А вось прафесар Гродзенскага дзяржуніверсітэта Міхась Ткачоў у свой час лічыў абавязкам дайсці ажно да міністэрства, каб дамагчыся свайго і зрабіць відэастужку пра помнікі гісторыі і культуры. Пасля смерці шаноўнага вучонага такія захады ніхто не робіць. А маўклівыя сведкі старажытнасці пакрыху разбураюцца. На іншых пабудовах таблічкі нагадваюць нават, што "аб'ект знаходзіцца пад ахоўвай дзяржавы".

***— Гродзенская краязнаўчая асацыяцыя прыкладае намаганні па ўвекавечанні на Воранаўшчыне памяці знакамітага земляка, "гісторыка Літвы" Тэадора Нарбута (1784-1864). Мясцовыя краязнаўцы выступілі з ініцыятывай аб стварэнні краязнаўчага музея ў вёсцы Нача. Наколькі грамадскае аб'яднанне літоўцаў "Тэвінэ" успрымае гэтую ідэю?***

— Мне тэлефанавалі актывісты-краязнаўцы Воранаўшчыны. Прасілі дапамогі, у прыватнасці, даць адрасы літоўскіх дзеячаў культуры, да якіх можна звярнуцца з прапановамі. Але Літва – гэта замежжа, няхай нават і блізкае. Трэба найперш самім клапаціцца пра сваё. Шкада, што родная дзяржава не ідзе насустрач.

Мне давялося быць сведкаю, як ствараўся Гальшанскі музей. У яго вытокаў стаяў Эдуард Сямёнавіч Корзун, пасля шматгадовы дырэктар установы культуры. На жаль, ён сёлета пайшоў з жыцця. Гэта быў гісторык-краязнаўца, вялікі педагог. Ён спадзяваўся на дапамогу звонку, але выкарыстоўваў найперш уласнае працалюбства і арганізатарскія здольнасці. Мы абавязкова возім экскурсіі з Літвы ў Гальшаны. У тым музеі ёсць што паглядзець. І кожны раз добрым словам узгадваем Э.С.Корзуна.

***— Такія асобы, як Эдуард Сямёнавіч Корзун складаюць гонар краязнаўчага руху не толькі Гродзеншчыны, спрыяюць пашырэнню гістарычных ведаў, выхаванню адукаваных грамадзян, патрыётаў Радзімы…***

— Калі я вучыўся ў сямігодцы, памятаю, гісторыю выкладаў у нас настаўнік Науседа. На ўрокі ён часцяком прыходзіў з акардэонам. Распавядаў пра легенды, і падыгрываў на музычным інструменце, а то і спяваў старадаўнія песні. Такое не забываецца. Хіба пасля гэтага можна не займацца гісторыяй і краязнаўствам!

У педвучылішчы гісторык Урдоніс прызвычаіў нас хадзіць у паходы. Мы абыйшлі амаль усе гістарычныя мясціны Літвы. Я на ўсё жыццё зразумеў, як важна прывіць любоў да роднай зямлі моладзі. Пагэтаму мы з гісторыкам Алесем Госцевым правялі летам у Крэва конкурс юных краязнаўцаў у рамках свята "Дзень каранацыі караля Міндаўга". Мяркуем зрабіць яго традыцыйным. Цікава, што сваіх юных краязнаўцаў прывялі настаўнікі з Гальшан і Крэва. Яны таксама займаліся краязнаўствам, удзельнічалі ў конкурсах у 70-х – 80-х гадах мінулага стагоддзя. Вось вам і сувязь пакаленняў!

Ванда Шоцік распрацавала для моладзі гістарычны цыкл "Мой родны кут". Паспрабуем ажыццявіць задуманае.

**Гутарыў**
**Андрэй Дісьнёнак**

■ **КРАЯЗНАЎСТВА: ПРАБЛЕМЫ І НАБЫТКІ**

# СВЕДЧАННІ З ДЗЯРЖАЎНЫХ АРХІВАЎ

Паважаная рэдакцыя!

Да вас звяртаецца краязнавец з Ваўкавыскага раёна Рыгор Сямёнавіч Акунеўскі. У гэтым годзе, дзякуючы старшыні Гродзенскай краязнаўчай асацыяцыі прафесару Андрэю Майсяёнку, я атрымліваю бюлетэнь "КГ". Чытаю з задавальненнем…

У мяне сабралася многа матэрыялаў па Ваўкавыскаму раёну. Больш за ўсё гэта тычыцца Лапеніцкага абшару, хаця б таму, што гэта мая радзімая вёска, якая была на працягу многіх гадоў мястэчкам. Матэрыялы я набыў у Вільнюскім дзяржаўным архіве, Мінску і Гродне. Усе яны на польскай і рускай мове. Пераклад на беларускую не склаў для мяне цяжкасцей. У асноўным, гэта рапарты загадчыкаў народных вучылішчаў, звесткі аб настаўніках, прыгаворы аб апякунстве...

Дасылаю вам некалькі сваіх перакладаў.

**Рыгор Акунеўскі. Ваўкавыскі раён.**

**"КГ".** *Шаноўны Рыгор Сямёнавіч! Мы ўважліва прачыталі Вашы пераклады, пераканаліся, што матэрыял выкліча цікавасць чытачоў. У бліжэйшых нумарах газеты надрукуем.*

# МАЕМ СВАЁ ВЫДАННЕ

Наш бюлетэнь "Вятрак" з'яўляецца друкаваным органам творчага маладзёжнага аб'яднання. Распавядаем пра свае справы, грамадска-палітычнае жыццё краю.

Часта звяртаемся да краязнаўчай тэматыкі. Напрыклад, паведамілі пра касцёл у Новых Дзевяткавічах, паразважалі аб закінутым стане паркаў.

Аўтары бюлетэня не саромяцца крытыкаваць людзей, якія могуць сапсаваць настрой кожнаму. Так было на пошце вёскі Навадзевяткавічы, куды мы прыходзім, каб разаслаць сябрам "Ветрака" віншавальныя паштоўкі. Тут грамадзян могуць аблаяць, нагаварыць лухты. Дзіву даешся, чуючы абразы ад дзяржаўных работнікаў. Хіба ім тут месца?

Праз бюлетэнь творчае маладзёжнае аб'яднанне аб'явіла конкурс на лепшае сачыненне на тэму "Я лічу свой горад (вёску) прыгожымі таму, што…".

**Алег Шэлестаў, в. Мірная Слонімскага раёна.**

# У ГЛЫБІНЮ ВЯКОЎ… НА РОВАРЫ

Яшчэ Эклезіяст гаварыў, што нічога новага няма пад небам, усё вяртаецца да кругоў сваіх. Так і ў дзейнасці краязнаўцаў.

Вось ляжыць перада мной фаліянт у 830 балонак за 1910 г. Мае назву "Ziemia". І ўсё пра краязнаўства ў межах былой Рэчы Паспалітай. Часопіс выходзіў штотыдзень на васьмі балонках з масай краязнаўчага матэрыялу. Напрыклад, асвятляюцца вандроўкі вучоных і энтузіястаў у далёкія краіны. Вельмі шмат фотаздымкаў. У раздзеле "Двары, замкі, палацы" можна пабачыць і беларускія фальваркі: Дудзічы, Вароньча. Многа пішацца аб возеры Свіцязі і Навагрудаку.

Сёння мы зноў вяртаемся да гэтых даследаванняў, можна сказаць, з нуля. Між тым, 100 гадоў назад ужо быў пройдзены вялікі шлях.

У бягучым годзе я надумаў праехаць па гарадах Заходняй Украіны, здымкі якіх знайшоў ва ўзгаданай кнізе. Крамянец, Камянец-Падольскі, Хоцін, дзе былі важныя для нашай краіны бітвы з туркамі ў 1621 і 1673 гадах. Пра гэта ёсць напамінак у фарным касцёле ў Навагрудку.

Найбольш мяне ўразіла панарама Хоцінскай бітвы, зробленая ў 1672 годзе. Усё гэта – прамая наша гісторыя. Што там засталося сёння? Цікава будзе ведаць усім. Аб вандроўцы на ровары зробім фота- і відэаздымкі.

**А.Дуброўскі. г. Пінск.**

# ПРЫЕМНА АТРЫМАЦЬ ТАКІ КАНВЕРТ!




Рэспубліканскае дзяржаўнае аб'яднанне "Белпошта" часта змяшчае на канвертах малюнкі на гісторыка-краязнаўчую тэматыку. Гэта мае вялікае выхаваўчае значэнне. Падзеі і асобы роднага краю застаюцца ў памяці, сведчаць пра багатае мінулае роднай Беларусі.

**На здымку:** паштовы канверт з выявай Гродна

# НА БУДУЧЫНЮ ПЛАНЫ ВЯЛІКІЯ

Паважаная рэдакцыя!

Піша вам Андрэй Белавешкін, краязнаўца з Бярозы. Вялікае дзякуй за прысланыя газеты. Вельмі цікава іх пачытаць. Зараз даследую рэшткі воднага млына, які я знайшоў каля Бярозы (пабудаваны ў першай палове 19-га ст.). Але інфармацыі аб млынах такога тыпу, асабліва іх водных сістэмах, у мяне надзвычай мала.

Можа рэдакцыя змесціць маё пісьмо, а яго прачытаюць зацікаўленыя асобы і дадуць мне праз газету адказ. Буду вельмі ўдзячны любым звесткам.

Нядрэнна было б стварыць і ў нас краязнаўчую суполку. Я спрабую гэта зрабіць, аднак справа аказалася даволі цяжкай. Думаю, вопыт стварэння краязнаўчых арганізацый на Гродзеншчыне, аб чым я даведваюся з "Краязнаўчай газеты", дапаможа вырашыць праблему.

Планую прыехаць у Гродна для працы ў архівах. Тады, спадзяюся, атрымаю многа карысных парад ад гродзенскіх краязнаўцаў.

**Андрэй Белавешкін, г. Бяроза Брэсцкай вобласці**

# КРАЙ НАШ АШМЯНСКІ...

## КРАЯЗНАЎЦЫ МАЮЦЬ СТАЖ

**Устаноўчы сход Ашмянскага краязнаўчага аб'яднання адбыўся 1-га ліпеня 1994 г. Так было рэалізавана рашэнне краязнаўчай канферэнцыі, праведзенай 15 кастрычніка 1993 г. у Ашмянах і Барунах, ініцыяванай Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыяй.**

**У час канферэнцыі адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі, прысвечанай памяці выхаванцаў Барунскіх вучэлень – А.Адзінцу, У.Хацько, С.Рак-Міхайлоўскаму. Матэрыялы канферэнцыі былі выдадзены ў 1995 г. і сталі своеасаблівым падручнікам мясцовай гісторыі, памятнікам славутым людзям Ашмяншчыны.**

## З ГІСТОРЫІ РУХУ

За час існавання Ашмянскага аб'яднання склаўся калектыў краязнаўцаў, які прычыніўся да шматлікіх доследаў рэгіянальнай гісторыі, развіцця музейнай справы ў раёне.

Зараз дзейнічаюць шэсць школьных музеяў, у т.л. у ПТВ-192. У 2000 г. з дапамогай раённага краязнаўчага музея створана экспазіцыя Барунскай вучэльні (да 300-годдзя школы). Але, на жаль, да адкрыцця экспазіцыі яшчэ далёка. Панеслі страты і краязнаўцы – адыйшлі з жыцця Д.І.Васілеўская, К.М.Скробаў.

Новая хваля актывізацыі краязнаўчага жыцця ўзнялася з узнікненнем Беларускага краязнаўчага таварыства імя Т.Нарбута. Яно не пакінула без увагі нашых ашмянскіх сяброў. У раёне актыўна дзейнічаюць А.Каранеўскі, У.Касюдэк, І.Мантураў, М.Жэжла, М.Пузіноўскі, Ф.Літвіновіч.

Своеасаблівы цэнтр краязнаўства склаўся ў Гальшанах, дзе працуе народны краязнаўчы музей Гальшанскай СШ, а таксама філіял Нацыянальнага мастацкага музея пад кіраўніцтвам Ч.Акуловіч. Менавіта на гэтыя дзве ўстановы абапіраецца грамадска-краязнаўчае аб'яднанне "Гальшанскі замак", якое многа робіць для вывучэння і папулярызацыі багатай гісторыка-культурнай спадчыны Гальшан.

## КАНФЕРЭНЦЫЯ КРАЯЗНАЎЧАГА АБ'ЯДНАННЯ

7-га ліпеня адбылася арганізацыйная канферэнцыя Ашмянскага краязнаўчага аб'яднання. У яе працы прынялі ўдзел старшыня Управы Беларускага краязнаўчага таварыства імя Т.Нарбута прафесар С.А.Габрусевіч і старшыня Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі прафесар А.Г.Майсяёнак.

У справаздачы, зробленай А.Каранеўскім, гаварылася аб неабходнасці актывізацыі краязнаўчай працы, пашырэнні геаграфіі краязнаўства, актыўнага ўдзелу ў стварэнні гісторыка-дакументальнай хронікі "Памяць", неабходнасці правядзення 2-й краязнаўчай канферэнцыі.

Пра далучэнне моладзі да гісторыка-краязнаўчых і прыродаахоўных дзеянняў гаварылі Г.Палубінская, П.Шакола, І.Мантураў. З паведамленнямі пра стан краязнаўчага руху на Беларусі, і Гродзеншчыны ў прыватнасці, выступілі А.Майсяёнак і С. Габрусевіч.

Сход краязнаўцаў прыняў рашэнне аб далучэнні Ашмянскага краязнаўчага таварыства як рэгіянальнай структурнай адзінкі (так будзе фармалізавана ранейшае аб'яднанне) да Беларускага краязнаўчага таварыства імя Т.Нарбута

Абрана Рада таварыства, у складзе якой Ж.І.Іванова (старшыня), А.Р.Каранеўскі (намеснік), В.С.Цішчанка, І.І.Мантураў.

**А.Дісьнёнак**



**Гальшанскае гарадзішча. З малюнка Я.Драздовіча**

**Пётр Шакола**

***Прысвячаю ўдзельнікам краязнаўчай канферэнцыі***

Ашмянскае ўзвышша на карце краіны –
Маленькая плямка, а край сам – былінны:
Здаўна тут жылі беларусы-ліцвіны…
Пра гэта ў даведках ёсць успаміны.

Народ наш свой гонар адстойваў упарта:
Тэўтонцаў пабіў і прагнаў Банапарта.
Не ўпаў на калені прад немцам-фашыстам,
І пры камуністах не стаў атэістам.

Заўсёды ад бруду ён веру хаваў,
Радзіму і Бога, людзей шанаваў.
Ў Ашмянах адноўлены цэрква, касцёл,
Свабодна працуе духоўны прастол…

Яшчэ б трохі дыхаць народу далі
На гэтай спрадвеку нам роднай зямлі –
Мы б справілі свята, расклаўшы абрус.
Уваскрэснуць Ашмяны –
Будзе жыць Беларусь!

## СТАРШЫНЯ ТАВАРЫСТВА



### Іванова Жанна Іванаўна

Нарадзілася 4.10.1955 г. у Гальшанах. Скончыла Белдзяржуніверсітэт у 1979 г. па спецыяльнасці "Беларуская філалогія".

Працавала ў рэдакцыі газеты "Зорька", выхавацелькай Ашмянскай школы-інтэрната. З 1985 г. – навуковы супрацоўнік Ашмянскага краязнаўчага музея. У 1987-1988 г. – настаўнік СШ № 2, з 1997 г. – дырэктар музея. Спецыялізуецца ў галіне літаратурнага краязнаўства, распрацоўвае канцэпцыю музейных экспазіцый.

***(Працяг тэмы на 5-й – 7-й стар.)***

# НАМ ЁСЦЬ НА КАГО РАЎНЯЦЦА!


Эдуард Корзун

Эдуард Сямёнавіч Корзун памёр 24 ліпеня гэтага года на 69-м годзе жыцця. Быў шчырым прыхільнікам нашай газеты. У нумары за красавік змешчаны яго допіс "Гальшаны – месца гістарычнае". Цяпер перачытваеш, і па-новаму бачыцца гэтая асоба.

Ён пісаў, што людзі яго пакалення цвёрда трымаліся за аднойчы абраную прафесію. Уласна гэты чалавек аддаў дзесяткі гадоў настаўніцтву. У школу прыйшоў адразу пасля заканчэння ў 1957 годзе гістарычнага факультэта Гродзенскага педагагічнага інстытута. Быў дырэктарам школы, намеснікам, кіраваў музеям.

Краязнаўствам заняўся ў 1962 годзе. І адразу прыступіў да стварэння школьнага гісторыка-краязнаўчага музея. Ездзіў па раёне, запісваў сведчанні людзей, збіраў фотаздымкі, дакументы, удзельнічаў у абласных і рэспубліканскіх канферэнцыях.

Гісторыя і этнаграфія Гальшан стала яго жыццёвай справай. На старонках газет з'яўляліся ўсё новыя публікацыі Эдуарда Корзуна. А з часам назапасілася столькі, што стала магчымым выдаць кнігу "Гальшаны" (1987). Яго артыкулы таксама змешчаны ў шэрагу зборнікаў – "Школьны музей", "Ашмяншчына", "Энцыклапедыя Беларусі". Спецыялісты-педагогі па праву ацанілі дапаможныя выданні Эдуарда Сямёнавіча "Мясцовы матэрыял на ўроках", "Гісторыя вёскі выхоўвае", "Гальшаны", "Гальшанскае княства", "Помнікі архітэктуры ў Гальшанах".

Толькі тыя, хто працаваў побач, ведаюць, колькі сіл і намаганняў прыклаў гэты чалавек, ствараючы школьны гісторыка-краязнаўчы музей. Пачынаў з нуля, а пакінуў багаты матэрыял. Кіраўніцтва Ашмянскага раёна надрукавала ў раённай газеце "Ашмянскі веснік" некралог з прычыны смерці Эдуарда Сямёнавіча. Адзначыла, што гэта быў адукаваны, творчы, ініцыятыўны чалавек. Ён падрыхтаваў шмат пераможцаў абласных і рэспубліканскіх алімпіяд па гісторыі. Яго выпускнікі – паважаныя людзі краю. Эдуард Корзун узнагароджаны Ганаровай Граматай Міністэрства асветы Беларусі, значком "Выдатнік адукацыі Беларусі", ордэнам Знак Пашаны, медалямі.

Нам цяжка ўсведаміць, што побач з намі ўжо ніколі не будзе сябра Управы Беларускага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута – Эдуард Сямёнавіч Корзун. Вось ужо два месяцы, як няма на свеце гэтага чалавека, а сэрца баліць, не супакойваецца. Дзеля светлай памяці Э.С.Корзуна мы абавязаны яшчэ шчыльней зносіць шэрагі краязнаўцаў вобласці. І працаваць так, каб не было сорамна. Нам ёсць на каго раўняцца.

**Рада Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі і Управа БКТ імя Т. Нарбута**

# ПАДОЎЖЫМ СПРАВУ ЭДУАРДА КОРЗУНА!

28 ліпеня ў Гальшанах адбыўся арганізацыйны сход краязнаўчай суполкі "Гальшанскі летапіс" імя Эдуарда Корзуна. Зараз у складзе суполкі 11 чалавек. Старшынёй абрана Тамара Жызнеўская – навуковы супрацоўнік Гальшанскай філіі НММ.

Сябры суполкі плануюць працягваць краязнаўчую справу Эдуарда Корзуна, выдаць яго кнігу "Гальшаны", над рукапісам якой ён працаваў апошнім часам. Плануем пачаць збор матэрыялаў для кнігі "Гальшанскі летапіс".

Мы хацелі б, каб наша суполка была прынята ў склад Беларускага краязнаўчага таварыства імя Т.Нарбута. Падкажыце, што для гэтага трэба зрабіць.

**Наталля Мяцельская. г. Мінск.**

# ЁН МЕЎ ЗДОЛЬНАСЦІ ЛІТАРАТАРА

Веды, якія назапасіў Эдуард Корзун за доўгі час краязнаўчых пошукаў, патрабавалі свайго асэнсавання. На шчасце, знакаміты збіральнік сведчанняў мінулага меў Божы дар занатаваць думкі ў газетных нататках. Да апошняга дня жыцця яго публікацыі з'яўляліся на старонках СМІ.

У адным з апошніх па часе нумароў гісторыка-краязнаўчага і літаратурна-мастацкага часопіса "Куфэрак Віленшчыны" (222310, Маладэчна-4, а/с 35) змешчана адразу тры работы Э.С.Корзуна. "Легенды Гальшанскага краю" уключаюць 12 паданняў пра помныя факты з паходжання назваў родных мясцін, фактаў жыцця гістарычных асобаў. Сам аўтар удакладняе, што легенды запісаны ад старажылаў, знойдзены ў літаратуры 19-га ст., сабраны сябрамі літаратурна-краязнаўчага гуртка ў 1970 г. У крыніцах пазначаны прозвішчы людзей, з якімі гутарыў Эдуард Сямёнавіч.

"Рушчыцы і Гальшаны", "Міхайлоўшчына" – выдатныя ўзоры краязнаўчых нататак. Майстэрства апавядальніка заключаецца ў тым, што ён, напрыклад, распавядаючы аб знаходжанні знакамітага мастака, грамадскага дзеяча свайго часу Фердынанда Рушчыца ў Гальшанах, аднačасова прапануе чытачу багаты спадарожны матэрыял. Нетаропкі, падрабязны аповяд раскрывае характар асобы, пры дапамозе дзесяткаў малазнаных фактаў дапамагае ўявіць стан грамадства таго часу.




Вось прыклад для нас, краязнаўцаў, як трэба выкарыстоўваць звесткі, адбіраючы найбольш важкія і характэрныя, прыдатныя менавіта для канкрэтнага допісу!

**Сцяпан Ярашчук**

# ЗВАНЫ ЧАСОЎ СПАКОЮ НЕ ДАЮЦЬ…




Папулярны гістарычны часопіс “Колокола времён” мае падпісны індэкс – 00266, выходзіць на рускай мове, хаця сустракаюцца радкі і па-беларуску. Выдаецца ў шматколерным адлюстраванні накладам у 10.000.

Нядаўна пабачыў свет чарговы, другі па ліку нумар. Тэматычна ён прысвечаны мястэчку Гальшаны, што ў Ашмянскім раёне. Аўтар тэксту Наталля Мяцельская распавядае пра ўзнікненне і існаванне напаўлегендарнай балта-славянскай дзяржавы Нальшаны, якая пазней стала часткай Вялікага Княства Літоўскага. Аб глыбокай гісторыі сведчаць назвы былых гарадоў і замкаў гэтай зямлі – Крэва, Ашмяны, Варняны, Гальшаны…

У артыкуле “Пад знакам Гіпацэнтаўра” прасочваецца гісторыя роду князёў Гальшанскіх. Яго пачынальнік, Альгімунт, узгадваецца ў летапісах 14-га стагоддзя. Яго дачка Юльяна была замужам за князем Вітаўтам. Найбольшую славу свайму роду прынесла Соф’я Гальшанская, жонка Ягайлы, пачынальніца каралеўскай дынастыі Ягелонаў. Апошняя княжна Гальшанская ў 16-м стагоддзі выйшла замуж за Паўла Сапегу, уладальніка Гальшан.

“Гальшаны – мястэчка вялікіх падзей”. У артыкуле пад такой назвай гаворыцца пра жыццё гарадка ў розныя часы. Тут месцяцца два музеі – філіял Нацыянальнага мастацкага музея і гісторыка-краязнаўчы музей, які стварыў і ўзначальваў нядаўна памёрлы выкладчык гісторыі Эдуард Сямёнавіч Корзун.

Уладзімір Караткевіч адзін са сваіх выдатных раманаў назваў “Чорны замак Гальшанскі”. Гэтай пабудове ў часопісе прысвечаны самастойны допіс. Не абыйдзены ўвагай тутэйшыя касцёл, царква, былы манастыр францысканцаў. Прыводзяцца малавядомыя гістарычныя факты.

Выкладчык гісторыі Гальшанскай СШ, дырэктар школьнага гісторыка-краязнаўчага музея, збіральнік і захавальнік гальшанскіх легенд Эдуард Корзун прапанаваў для выдання некалькі сваіх запісаў – паданні “Зачараваны жаніх”, “Сон на гарадзішчы”, “Горад, які праваліўся”.

Азнаямленне з матэрыяламі нумару часопіса, прысвечанага мястэчку Гальшаны, дае глыбокае веданне гэтага паселішча ад даўніх часоў да нашых дзён. Тэкст выдатна дапаўняюць малюнкі і фотаздымкі. Гэта творчая ўдача заснавальніка і выдаўца Аляксандра Слабодзіча, асобаў, якія працавалі над нумарам, — Наталлі Мяцельскай, Аляксандра Гатоўкі, Эльвіры Валчок.

**Уладзімір Кавалёў**

# ЗАМАК ЛЕГЕНДАРНАГА ГОЛЬШЫ

Выбітны гісторык архітэктуры Ул.Чантурыя назваў Гальшаны адзіным у Беларусі мястэчкам, якое здолела захаваць свой архітэктурны твар. Сапраўды, тут на невялікай плошчы вакол былога Рынку засяроджаны помнікі архітэктуры канца 15-га – пачатку 20-га стагоддзяў – касцёл і кляштар францысканаў, царква, гандлёвыя рады, жылая забудова. Што ні дом, то былая майстэрная, крама, рэстарацыя…

Гальшаны маюць багатую гісторыю. Узнікненне паселішча адносяць да 1280 г. на падставе запісу ў Хроніцы Быхаўца: “А чацвёрты брат вялікага князя Нарымунта, Гольша… знайшоў прыгожую гару, аточаную вялікімі раўнінамі і напоўненую багаццем, і спадабалася яму там, і ён там пасяліўся, і на гэтай гары стварыў горад над ракою Карабель… і пачаў там княжыць, і назваўся князем Гальшанскім”.

Князі Гальшанскія – нашчадкі легендарнага Гольшы – займелі найвышэйшыя пасады ў ВКЛ. Іх подпісы аднымі з першых стаяць на галоўных дыпламатычных актах таго часу. Іван Альгімунтавіч Гальшанскі быў сябрам і шваграм вялікага князя літоўскага Вітаўта. Зоф’я Гальшанская палюбіла караля польскага Уладзіслава-Ягайлу і стала пачынальніцай дынастыі Ягелонаў.

Князі Гальшанскія бралі ўдзел у славутай Грунвальдскай бітве. Іван Юр’евіч Гальшанскі ўдзельнічаў у змове праваслаўных князёў 1481 г. з мэтай забойства Казіміра Ягелончыка, прыхільнага каталікам. Змова была выкрыта. І. Гальшанскі пакараны смерцю. Гэтыя гістарычныя падзеі далі кірунак адной з сюжэтных ліній знакамітага рамана Ул.Караткевіча “Чорны замак Альшанскі”.

Замак, які ўважаюць за прататып адлюстраванага ў рамане, дагэтуль захаваўся на ўскрайку Гальшан. На жаль, ён разбураны на тры чвэрці, але і ў такім стане ўражвае. Парослыя хмызняком крушні яшчэ захоўваюць адбітак былой велічы. Узвышаюцца над цаглянымі сценамі шасцібаковыя нарожныя абарончыя вежы, бяжыць абок замка ручай Карабель, што калісьці напаўняў вадой замкавыя равы.

Замак пабудаваны Паўлам Стэфанам Сапегам у канцы 16-га – пачатку 17-га стагоддзяў (маёнтак перайшоў да Сапегаў у першай палове 16-га стагоддзя як пасаг апошняй князёўны Гальшанскай).

У 1618 г. той жа П.Сапега пабудаваў у Гальшанах касцёл і кляштар для ордэна францысканцаў. Гэта адзін з найбольш цікавых помнікаў ранняга беларускага барока, якое яшчэ не забылася на жорсткія рысы готыкі і рэнесансу. Фасад простага і манументальнага гмаху касцёла прыкрыты фігурным баракальным шчытом франтона.

Інтэр'ер касцёла быў страчаны ў пасляваенныя гады, толькі ў алтарнай частцы захавалася ўнікальная фрэска 18-га ст. з выяваю Іаана Хрысціцеля, які хрысціць Ісуса Хрыста. Намаляваныя на цалкам плоскай сцяне прэзбітэрыума каланады і аркады ствараюць поўную ілюзію паўкруглай апсіды.

Да паўночнай сцяны касцёла прыбудаваны 2-х паверховы кляштар, спланаваны па галерэйнай сістэме. Галерэя першага паверха злучала кухню, пякарню, камору, васкоўню, сталовую. На другім паверсе месціліся келлі і бібліятэка. З двух вежаў захавалася адна, якую мясцовыя завуць "Вежай Прывідаў". Цёмнымі восеньскімі начамі пад скляпеннямі вежы і ў галерэях чутны нібыта водгукі крокаў, бразгатанне кратаў, прыгалошаныя пастукі і ўздыхі аднекуль з-пад столі ці сутарэнняў. Магчыма, гэта вынікі блукання гукаў у складанай сістэме дымаходаў, што былі пракладзены ў сценах паўтараметровай таўшчыні. Кажуць, часам уначы, калі месяц у поўні, у галерэі можна пабачыць Белую Даму францысканскага кляштара. А ў Вежы Прывідаў наогул адбываюцца дзіўныя падзеі…

Калі існуе сувязь паміж насычанасцю асяроддзя помнікамі даўніны, легендамі, паданнямі – і культурным узроўнем, дык выяўляецца гэта менавіта ў Гальшанах. Тут працуюць два музеі. Школьны гісторыка-краязнаўчы, створаны Э.С.Корзунам, па сваёй прафесійнасці не саступае дзяржаўным. Другі музей – філіял Нацыянальнага мастацкага музея – займае частку будынка былога кляштару. Філіял мае невялікую ўласную экспазіцыю, што месціцца ў галерэі. Былая манастырская сталовая аддадзена для выставак з запаснікаў музея. Не ўсе нават раённыя цэнтры маюць магчымасць знаёміць сваіх жыхароў з такой колькасцю мастацкіх твораў, штогод ладзіць семінары, пленэры, чытанні. Па ініцыятыве Гальшанскага філіяла Нацыянальнага мастацкага музея ў снежні 2000 г. у Мінску, Багданаве, Варшаве, Гальшанах адбылося ўрачыстае святкаванне 130-х угодкаў нараджэння знакамітага мастака Фердынанда Рушчыца.

З 1996 г. у Гальшанах, навакольных вёсках і мястэчках дзейнічае клуб "Гальшанскі замак", які аб'ядноўвае як мінскіх, так і мясцовых руплівцаў старажытнасці.

**Наталля Мяцельская**



**Гальшанскі замак. Мал. Міколы Купавы. 1973 г.**

■ *ЖЫВЁМ НА ЗЯМЛІ АДНОЙ*

# НАШЫ БРАТЫ – БЕЛАРУСКІЯ ТАТАРЫ...

Квартальнік "Байрам" Беларускага грамадскага згуртавання "Зікр уль-Кітаб" і Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Беларусі змясціў артыкул "Татары ў гісторыі Беларусі" жыхара Гродна Саніяфа Фатыхавіча Гарданава.

Аўтар падкрэслівае, што гісторыя татараў у савецкіх школах не вывучалася, працы сур'ёзных вучоных-гісторыкаў былі мала каму вядомымі. Адсюль і няведанне найпростых ісцін, зняважальныя дагэтуль выказванні пра татар з боку вядомых палітыкаў Расіі. Тэндэцыйна скажаюцца сапраўдныя звесткі пра гісторыю ўзнікнення "татара-мангольскага іга".




Асобны раздзел Саніяф Гарданаў прысвячае татарам на землях ВКЛ. Тут яны жывуць звыш 600 гадоў. Масавае перасяленне пачалося яшчэ пры Вялікім князі Вітаўце ў 1392 годзе. Татар ахвотна бралі на вайсковую службу. Яны карысталіся сваёй мовай, верай і звычаямі. У бітве з крыжакамі пад Грунвальдам (1410 г.) татары першымі пачалі бітву. У 1506 годзе пад Клецкам былі разбіты крымскія захопнікі Менглі Гірэя выхадцам з літоўскіх татар князем Міхаілам Глінскім. Паселішчы палонных з'явіліся ў Клецку і Мінску.

Многія татары Гродзеншчыны пакінулі свае імёны ў гісторыі. Матэрыялы 1631 года ўзгадваюць атамана Ласосна з-пад Гродна. Пазней праславіліся ад'ютант Тадэвуша Касцюшкі маёр Сулейман Беганскі, Аляксандр Бялькевіч, палкоўнік літоўска-татарскага палка (1797 г.) Якуб Бараноўскі, паўстанцы-татары 1863-1864 гадоў, воіны Першай сусветнай вайны: Мацей Сулькевіч з-пад Ліды, генерал Аляксандр Малькоўскі, Юзаф Базарэвіч. На вайсковай службе ў рускай арміі тады было 18 татараў-генералаў.

Самыя старыя мячэці беларускіх татар знаходзяцца на Гродзеншчыне – у вёсках Некрашунцах (1415) каля Ліды і ў Лоўчыцах (1420) пад Навагрудкам. Да пачатку 20-га стагоддзя на тэрыторыі Беларусі было больш за 20 мусульманскіх храмаў. Цяпер захавалася толькі чатыры, і ўсе яны на Гродзеншчыне. Найбольш кампактна татары Беларусі жывуць у Іўі, Навагрудку, Слоніме, Астрыне. У Гродне працуе грамадскае аб'яднанне татараў горада.

**Сцяпан Ярашчук**

■ **ПА СТАРОНКАХ РЭГІЯНАЛЬНЫХ БЮЛЕТЭНЯЎ**

## “КРАЯЗНАЎЦА ПААЗЕР’Я”

На першай старонцы нумару за травень бягучага года змешчаны графічны план знакамітага Альшэўскага парку – узору садова-паркавага мастацтва Паазер’я. Даецца падрабязная даведка аб ім. Вучаніца шостага класа Віка Драўніцкая ў сваёй нататцы зрабіла спробу прасачыць гісторыю парку.

Яська Драўніцкі прапанаваў чытачу партрэтную замалёўку Фларыяна Даноўскага, які нарадзіўся ў 1834 годзе.

Аляксей Ластоўскі з места Дунілавічы Пастаўскага раёна разважае ў карэспандэнцыі “Свастыка” пра адзін з самых старажытных і найбольш распаўсюджаных сімвалаў індаеўрапейскіх (арыйскіх) народаў, да якіх належаць і беларусы.

## “ГАЛЬШАНСКІ ЗАМАК”

Нумары бюлетэня, як правіла, прысвячаюцца пэўнай падзеі. У студзені было шырока адлюстравана жыццё і дзейнасць мастака Фердынанда Рушчыца (1870-1936). У чэрвені была пераказана гісторыя яўрэйскай абшчыны Гальшан. Выклікае цікавасць пазнавальны артыкул заўчасна памерлага Эдуарда Корзуна “Яўрэі ў Гальшанах”. Пра лёс беларускіх яўрэяў паведаміла ў нататцы “Тут, на гэтай зямлі…” Наталля Мяцельская.

## “КРЭСЫ”

Сярод іншых матэрыялаў прыцягваюць увагу інтэрв’ю Уладзіміра Шыка з адметнымі асобамі. Шмат можна даведацца, чытаючы допіс “Гліна лечыць, спявае і душу саграваe”. Прафесійны мастак Сяргей Шчэрба дзеліцца думкамі аб творчасці ганчара. Ён удзельнік шматлікіх выставак. Старанна вывучае традыцыі старажытнай керамікі. Былы гараджанін, цяпер жыве ў вёсцы, марыць “убачыць Парыж і здзівіць французаў сваімі працамі”.

Другая гутарка з кавалём Юрыем Фурсам, мастаком па металу, выпускніком Беларускага аграрна-тэхнічнага універсітэта. Мастацкім кавальствам займаецца 15 гадоў. Дыпламант першага фестывалю народнага мастацтва “Беларусь – мая песня”. Яго рэчы былі на выстаўках у Расіі, Эстоніі. У Гродне жыве яго сябра-каваль. Майстар лічыць, што без духоўнага адраджэння палепшыць узровень жыцця надзвычай цяжка.

## “ШЫПШЫНА”

Краязнаўца Ігар Пракаповіч прапануе чытачам пісьмо свайго знаёмага, беларускага пісьменніка Івана Ласкова, які ўсё жыццё пражыў у Якуціі. Гэты чалавек памёр у 1994 годзе.

Іван Ласкоў шмат зрабіў для вывучэння сучасных беларускіх назваў. У тапаніміцы дасягнуў таго самага, што Мікола Ермаловіч у разуменні старажытных гістарычных працэсаў. Ласкоў тлумачыць магчымае паходжанне назваў Швакшты, Свір, Думбля, Глодава, Лодасі, Трумнічы. Гэта пісьмо было датавана 8 маем 1992 года.

# АБ ЧЫМ ПІШУЦЬ КАЛЕГІ?

## “ДЗЯДЗІНЕЦ”

Прыцягвае ўвагу публікацыя Алены Сідар “Чаго мы не ведаем пра Каложу?”. Напрыклад, тое, што старажытная царква – адна з 200 у свеце, каштоўнасць якіх не мае грашовага вымярэння. Царкве прысвоена ступень найвышэйшай каштоўнасці. На тэрыторыі СНД гэтым можа пахваліцца толькі Блакітная мячэць у Самаркандзе. Маскоўскі Крэмль і палацавыя комплексы Санкт-Пецярбурга Фонду архітэктуры пры ААН маюць узровень усяго першай велічыні.

Сёння трэба ведаць, што Каложа – адзіны ў свеце помнік хрысціянскай культавай архітэктуры да з’яўлення вучэння пра д`ябла (з 1054 года). Адсюль адчуванне яе цеплыні і пазітыўнай энергетыкі.

**Чытаў бюлетэні Сцяпан Ярашчук**

# ПЕРАЖЫЎ УЛАДЗІСЛАВА IV, ПЕРАЖЫВЕ І НАС

***Не думалі гродзенскія будаўнікі ў пачатку 1630-х гадоў, узводзячы лямус у двары манастыра брыгітак, што ён вытрымае столькі гістарычных выпрабаванняў.***

У 1632 г. у Гродне былі заснаваны два ордэны – брыгіцкі і дамініканскі. У наступным годзе закладзены Дамініканскі касцёл. Праз год пачалі будаваць манастыр брыгітак. У 1633 годзе сюды прыязджае, трымаючы шлях у Вільню, і жыве амаль месяц кароль Уладзіслаў IV. Тут ён прымае венецыянскае пасольства на чале з Цьеполі…

Аднак лямус захаваўся. Магчыма, гэтаму садзейнічалі малітвы вернікаў і моцныя драўляныя брусы, надзейны фундамент. Усе канструктыўныя элементы двухпавярховага будынку звязаны драўлянымі клінамі, без адзінага цвіка. А гэта як-ніяк прыкладна 500 квадратных метраў агульнай плошчы.

Выкарыстоўваўся як гаспадарчае і жыллёвае памяшканне. У савецкія часы належаў медыцынскай установе.

Мінулыя 368 гадоў не прайшлі бясследна. Пабудова патрабуе рамонту. Асабліва ніжнія вянцы зруба. Рэстаўратары з Літвы ацэньваюць кошт работ у 10-12 тысяч долараў.

**«КГ»**

Бюлетэнь «Краязнаўчая газета»

Выдаецца на беларускай мове. На правах унутранай дакументацыі распаўсюджваецца бясплатна.

Адрас: 230023 г. Гродна, п/с 22.

Наклад 299 асобнікаў
Адказны за выпуск Сцяпан Ярашчук
Дызайн і вёрстка Адам Кір`яцкі

Бюлетэнь дабрачынна падрыхтаваны сябрамі краязнаўчых суполак і аб’яднанняў Гродна і надрукаваны пры падтрымцы Інстытута адкрытага грамадства (Парыж) і абласнога аб’яднання “Ратуша”